# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 3 (2249) 16 студзеня 1992 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 8 кап.

## ДА 100-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Рыгора ШЫРМЫ





Сёлета Беларусь адзначае 100-годдзе з дня нараджэння выдатнага артыста і вялікага чалавека Рыгора Раманавіча Шырмы. З кожным годам яго велічнасць будзе станавіцца ўсё больш відавочнай, таму што зробленае асобай такога магутнага таленту і духу ў поўную сілу ўсведамляецца толькі на вялікай адлегласці часу. Рыгор Раманавіч быў вельмі прыгожым чалавекам, спагадлівым і мудрым, таму што зведаў на сваім вяку і ведаў пра жыццё значна больш, чым іншыя. Ад яго зыходзіў спакой і добразычлівасць, уражвала высокая інтэлігентнасць у абыходжанні з сябрамі і людзьмі нават малазнаёмымі. У кожнага, хто сустракаўся з Рыгорам Раманавічам, ёсць, канешне, свае патаемныя і дарагія ўспаміны, бо знаёмства з такімі людзьмі — падарунак лёсу. Мне часцей за іншыя ўспамінаецца сустрэча з Рыгорам Раманавічам у дні яго 75-гадовага юбілею. Жыў ён тады яшчэ ў самым цэнтры Мінска, у тым доме, на якім цяпер прымацаваны яго барэльеф і памятная мемарыяльная дошка. Пакой быў заліты яркім сонечным святлом. З вялікага стала, што стаяў пасярэдзіне пакоя, падалося мне, у тыя дні пачастункі і не ўбіраліся. За кавай вакол яго, акрамя Рыгора Раманавіча і яго жонкі Клаўдзіі Іванаўны, сядзелі дырэктар славутай капэлы А. Контраў і адзін з тых артыстаў, з якіх пачынаўся гэты калектыў, П. Морыц. Абстаноўка была цёплая, сямейная, і гэтак жа па-сямейнаму, расказалі артысты, віншавалі Рыгора Раманавіча ў капэле. Калі юбіляр увайшоў у залу, хор праспяваў «Многае лета» і яго любімую песню «Люблю наш край».

На працягу многіх гадоў Рыгор Шырма быў старшынёй Беларускага таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за рубяжом. Яшчэ жывуць, мусіць, у розных краінах землякі, якія сустракаліся з ім у Мінску, якім жадаў ён ніколі не забываць сваю Бацькаўшчыну і ніколі не разлучацца з роднай матчынай песняй.

Дзіяна ЧАРКАСАВА.

НА ЗДЫМКАХ: Рыгор ШЫРМА; у майстэрні Язэпа ДРАЗДОВІЧА ў Вільні, 1927 год, Р. ШЫРМА — чацвёрты злева.

(Артыкул В. ЛІЦВІНКІ «Зорка Шырмы» змешчаны на 6-й стар.).

## СУМЕСНАЕ БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКАЕ КАМЮНІКЕ

3—4 студзеня 1992 года ў Рэспубліцы Беларусь адбылася рабочая сустрэча Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіча і Старшыні Вярхоўнага Савета Літоўскай Рэспублікі В. Ландсбергіса, у час якой былі абмеркаваны пытанні развіцця адносін паміж Літоўскай Рэспублікай і Рэспублікай Беларусь, а таксама іншыя пытанні, што маюць узаемную цікавасць.

Старшыні дамовіліся, што Пагадненне паміж Літоўскай Рэспублікай і Рэспублікай Беларусь аб прынцыпах гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва і Дагавор аб асновах міждзяржаўных адносін будуць падпісаны ў самы бліжэйшы час.

У час сустрэчы С. Шушкевіч інфармаваў В. Ландсбергіса аб стварэнні СНД і намячаемых узаемаадносінах яе з іншымі дзяржавамі. В. Ландсбергіс выклаў пункт гледжання Літоўскай Рэспублікі па пытанню знешняй пазыкі былога СССР. Абодва кіраўнікі абмеркавалі будучую дэлімітацыю граніцы паміж дзвюма дзяржавамі, работа над якой пачалася ўжо, адзначылі неабходнасць інтэнсіфікацыі гэтага працэсу, абмяняліся думкамі аб будучым рэжыме і абслугоўванні граніцы.

Старшыні былі адзінай думкі аб неабходнасці забяспечыць свабоднае развіццё культуры нацыянальных меншасцей, уключаючы беспераашкоднае стварэнне літоўскіх школ у Беларусі і беларускіх — у Літве. Пры гэтым абодва кіраўнікі пагадзіліся, што стварэнне тэрытарыяльных аўтаномій немагчымае, таму што гэта садзейнічала б узнікненню новых ачагоў напружання ў рэгіёне. Другой прычынай узнікнення міжнацыянальных напружанасцей могуць стаць спробы тлумачэння канфесіянальных асаблівасцей як нацыянальна-этнічных. Абодва старшыні асудзілі любы нацыяналізм, які вядзе да процістаяння народаў, выказаліся за найлепшае ўзаемаразуменне і ўсебаковае супрацоўніцтва на дзяржаўным узроўні.

Бакі прызналі мэтазгодным стварыць сумесныя групы экспертаў для разгляду асобных спецыфічных праблем, якія ўзнікаюць у працэсе пераходу да якасна новага этапу супрацоўніцтва дзвюх суверэнных дзяржаў.

СВЯТА НАРАДЖЭННЯ ХРЫСТОВА



**Не ў лепшых варунках і не ў самым светлым настроі святкавалі праваслаўныя на Беларусі Каляды. Цяжкі і мулкі хамут перабудовы прыгнуў людзей новымі шалёна падскочыўшымі цэнамі і сацыяльнай бесперспектыўнасцю. Можа таму былі біткам набіты народам цэрквы ў дзень Хрыстовага Нараджэння. Да яго, збавіцеля свету, ішлі веруючыя, у яго шукалі паратунку.**

**Сёлета ўпершыню за доўгія гады савецкага рэжыму праваслаўныя Каляды адзначаліся не толькі як рэлігійнае, але і як дзяржаўнае свята.**

**Напярэдадні свята Нараджэння Хрыстовага ў Мінскім свята-духавым кафедральным саборы было ўсяночнае богаслужэнне, якое ўзначаліў патрыяршы экзарх усяе Беларусі высокапраасвяшчэнны мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі Філарэт. 7 студзеня ноччу была здзейснена літургія са служэнняў кліра гэтага ж сабора. У самы дзень свята былі таксама адслужаны дзве літургіі.**

**Вечарам адбылася традыцыйная святочная вячэрня, на якой прысутнічалі члены ўрада Рэспублікі Беларусь, прадстаўнікі грамадскасці і консульскіх устаноў, размешчаных ў Мінску. Госці павіншавалі мітрапаліта Філарэта са святам Нараджэння Хрыстовага. Уладыка ўручыў дзецям, якія прыйшлі на вячэрню, памятныя падарункі.**

**Свята Нараджэння Хрыстовага працягнецца да 19 студзеня — свята Хрышчэння гасподня.**

ІНФАРМАЦЫЙНЫ РЫНАК

## БЕЛАРУСКАЕ БІ-БІ-СІ

**З Лондана вярнуўся сакратар парламенцкай Камісіі па пытаннях галоснасці і сродкаў масавай інфармацыі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сяргей Навумчык. Там ён сустракаўся з генеральным дырэктарам Еўрапейскай службы Бі-бі-сі Эндру Таўзігам і кіраўніком Рускай службы Дэвідам Мортанам. Яны праявілі зацікаўленасць ў пытанні ўключэння Беларусі ў агульнаеўрапейскі паток інфармацыйнага рынку. У перспектыве ёсць магчымасць стварыць Беларускую службу Бі-бі-сі. Чакаецца, што будучай вясной гэтыя высокапастаўленыя прадстаўнікі вядомай ва ўсім свеце карпарацыі наведаюць Мінск.**

АХОВА ЗДАРОЎЯ



**Пасля капітальнага рамонту прыняло маленькіх пацыентаў дзіцячае аддзяленне Круглянскай раённай бальніцы, што на Магілёўшчыне. Умовы знаходжання тут намнога палепшыліся. У стацыянары на 30 ложкаў захварэўшыя дзеці цяпер знаходзяцца разам з мамамі. А гэта значыць, што выздараўленне малыч надыдзе раней.**

**НА ЗДЫМКУ: прыём вядуць урач-педыятр Ларыса ЯКАЎЛЕВА і медыцынская сястра Марыя ЧЭПІК.**

ЗАБЫТЫЯ ДАТЫ

## ПЕРШЫ ЎСЕБЕЛАРУСКІ...

**Вялікую цікавасць у мінчан выклікала «Вечарына», прысвечаная гадавіне Першага Усебеларускага кангрэса. Гэта падзея, што адбылася 74 гады назад, стала фэноменам у нацыянальна-вызваленчым руху. Як і цяперашні ўрачысты вечар, праходзіла яна ў тэатры Янкі Купалы. Яго ініцыятарам тады выступіла Вялікая беларуская рада, аб'яднаўшая розныя палітычныя сілы. У пошуках будучыні Беларусі дэлегаты падзяліліся на два лагеры. Адны выступалі за поўную незалежнасць, другія — за цесныя сувязі з Расіяй у форме федэрацыі. Калі высветлілася, што прыхільнікаў незалежнасці больш, прэзідыум арыштавалі, а дэлегатаў кангрэса разагналі з дапамогай штыхоў. У далейшым лёс кожнага з іх аказаўся трагічным. Аб гэтай памятнай старонцы ў нашай гісторыі расказаў прысутным кандыдат гістарычных навук Віталь Скалабан.**

**На «Вечарыне» выступіў народны дэпутат рэспублікі Зянон Пазняк. Ён адзначыў, што Беларусь зноў уступае на шлях незалежнасці і таму памылкі мінулага не павінны паўтарыцца. Ад беларускага народа залежыць будучыня рэспублікі. Пакуль, падкрэсліў лідэр БНФ, наш суверэнітэт — з'ява вельмі хісткая, незалежнасць павінна быць абаронена нацыянальнай арміяй і ўласнай валютай, таможняй і прадстаўніцтвам на міжнародным узроўні.**

**Завяршылася «Вечарына» спектаклем «Тутэйшыя».**

ЖЫРОВІЦКІ МАНАСТЫР

## ПАШЫРАЕ МЕЖЫ

**Жыровіцкі манастыр, на тэрыторыі якога размешчана і Мінская духоўная семінарыя, пашырае свае ўладанні. Выканком Слонімскага райсавета адвёў яму 4,3 гектара зямлі пад будаўніцтва жылых дамоў, добраўпарадкаванне тэрыторыі і ўстанаўленне пры ўездзе ў Жыровічы памятнага знака. Пацясніцца ў сувязі з гэтым давядзецца суседу манастыра — мясцоваму саўгасу-тэхнікуму, які раней зручна размясціўся на манастырскім двары.**

БЕДНЫЯ НАСТАЎНІКІ — БЕДНЫЯ ДЗЕЦІ

**Плошча Незалежнасці ў Мінску за апошнія гады бачыла розных баставаных. Сюды прыходзілі рабочыя, пратэстуючыя студэнты, кінутыя на волю лёсу ахвяры Чарнобыля, адвакаты...**

**У першыя дні новага года тут упершыню сабраліся настаўнікі сталіцы. Яны заклапочаны становішчам, што склалася ў народнай асвеце, жабрачымі ўмовамі жыцця. Удзельнікі пікетаў ля Дома ўрада перадалі ў Вярхоўны Савет і Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь пакет патрабаванняў. Калі яны не будуць задаволены, то 1 лютага пачнецца забастоўка настаўнікаў.**

**НА ЗДЫМКУ: удзельнікі пікетау на плошчы Незалежнасці.**




НАША ДОЛЯ

## 16 ПАДВОДНЫХ ЛОДАК ДЛЯ РБ

**Адпаведна з доляй Беларусі ў валавым нацыянальным даходзе СССР, народны дэпутат Уладзімір Заблоцкі падлічыў, на якую менавіта частку ўласнасці былой Савецкай Арміі мае права наша рэспубліка. Гэта амаль 60 міжкантынентальных балістычных ракет, 40 балістычных падзяляючыхся ракет з падводных лодак, 7 стратэгічных бамбардзіроўшчыкаў, 350 самалётаў франтавой авіяцыі, 2 700 танкаў, 3 200 БМП і БТР, каля 3 тысяч артылерыйскіх ствалоў, 5 атамных і 11 ядзерных падводных лодак, 7 буйных караблёў, уключаючы авіяносцы.**

*«Абсалютызаваць усе прынцыпы нельга. Вы сказалі аб Дэкларацыі правоў чалавека. Гэта не мой аналіз, але ніводная краіна ў свеце не адпавядае поўнасцю той самай Дэкларацыі 1948 года. Значыць, узнікае пытанне ўзроўню дапушчальных адступленняў і ўмоўнасцей. Вядома, нельга лічыць умоўнасцю канфлікты крывапралітныя. Недапушчальна. Але гэтыя з'явы ў значнай меры вынік сумнай перадгісторыі, да якой мы ўсе маем дачыненне, таму кожнае такое пытанне павінна быць разабрана індывідуальна, карэктна. Тры такія пазіцыі ёсць у садружнасці: Азербайджан, Арменія і Малдова. Што тычыцца Рэспублікі Малдова, мы ў Беларусі, у парламенце, істотна лепш арыентуемся ў тым, што там адбываецца дзякуючы даволі шырокім кантактам. Маё перакананне, што мы правільна прызналі Малдову, правільна сталі на баку канстытуцыйных улад Малдовы, таму што хопіць гэты стары жарт паўтараць, што нехта, напрыклад, Расія, павінен абараняць інтарэсы рускіх у Рэспубліцы Малдова. Не, Рэспубліка Малдова павінна там абараняць інтарэсы рускіх. І ў нас у Беларусі не трэба, каб нехта абараняў інтарэсы ўкраінцаў ці рускіх. Мы, парламент і ўрад, абаронім. Трэба зыходзіць з гэтага прынцыпу і не здраджваць яму».*

*(З інтэрв'ю Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава ШУШКЕВІЧА газеце «Комсомольская правда»).*

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● У Брэсце на базе політэхнічнага інстытута адкрываецца жаночы каледж. Дзяўчаты тут будуць набываць прафесіі сакратара-рэферэнта, спецыяліста па маркетынгу і праграмнаму забеспячэнню персанальных камп'ютэраў.

● У Гомелі праходзіць адбор найбольш здольных кіраўнікоў кааператываў і малых прадпрыемстваў. 15 з іх будуць накіраваны на вучобу ў Францыю па праграме «Рыначная эканоміка і рыначныя адносіны».

● Толькі 650 фермерскіх гаспадарак налічваецца сёння ў рэспубліцы. Як сцвярджае старшыня Беларускай сялянскай партыі Я. Лугін у адкрытым лісце да Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь М. Ігнатовіча, гэта вынік грубога парушэння нашага заканадаўства аб зямлі. Мясцовыя ўлады проста не даюць сялянам зямлю.

● Як паведаміў мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі, патрыяршы экзарх усяе Беларусі Філарэт, у сталіцы адчынены і дзейнічаюць 4 прыходскія нядзельныя школы, створана таварыства міласэрнасці. У Мінску будуць пабудаваны 3 праваслаўныя храмы — у Чыжоўцы, на вуліцах Каліноўскага і Прытыцкага.

● На плошчы Незалежнасці ў Мінску адбыўся мітынг пратэсту вадзіцеляў сталічных таксі. З павышэннем платы за праезд таксісты амаль што пазбавіліся работы і заробку — мінчане перасталі ездзіць на таксі.

● Напярэдадні Калядаў невядомыя павыбівалі вокны ў рэдакцыі папулярнага мінскага часопіса «Салон». Ёсць версія, што гэта справа рук камерсантаў, якія хацелі б выгадна прадаць «Салон».

## НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ

# «ЖЫВІЦЕ БЕЗ МЯНЕ»

Яшчэ праз год — у 1927-м— у тым жа Дзяржаўным выдавецтве Беларусі пабачыла свет «Граматыка беларускае мовы» Лёсіка. Як зазначана ў падзагалоўку, яна «ўхвалена мэтадкомам (меўся на ўвазе метадычны камітэт Народнага камісарыята асветы. — **А. М.**) для настаўнікаў, педтэхнікумаў і самаасьветы».

«Што да яго (падручніка. — **А. М.**) прынцыпаў, — тлумачыў аўтар, — то я дазволю сабе сказаць аб гэтым тое, што сказаў А. В. Міртаў аб сваім падручніку «Грамматика русского языка» ч. п., які служыў мне да некаторай ступені ўзорам:

1) «Наша граматыка можа называцца **фармальнаю**, бо мы разглядаем формы мовы. Значэньне слоў і ўсе зьменнасьці ў галіне значэньня дасьледуе земазіолёгія (у такім правапісе даваў Лёсік слова «семасіялогія». — **А. М.**), а не граматыка.

2) Наша граматыка можа называцца **гістарычнаю**, бо розьніцу, зьменнасьць і рознастайнасьць формаў можна зразумець толькі ў гістарычным асьвятленьні.

3) Наша граматыка можаназывацца **апісальнаю**, бо задача яе — не ствараць «правілы» для жывое мовы, а толькі занатаваць яе формы, апісаць іх ды, па магчымасьці, зразумець прынцыпы вытварэньня і зьмены іх».

Нормамі, «правіламі», адзначае далей вучоны, займаецца не граматыка, а стылістыка. «Сустрэлася народная форма «ест» ці «косе», — граматыка аб'ясняе іх — першую, як спадчыну сівой старасьветчыны, а другую — прыпадабненьнем да формаў дзеясловаў першага спражэньня. Справа стылістыкі паказаць, што гэтыя формы няладныя, бо ня ўжываюцца ў літаратурнай мове. З гістарычна - граматычнага погляду форма «ест» правільная, але яна не дапускаецца стылістыкаю сучаснае літаратурнае мовы. І ў гэтым падручніку морфолёгічныя факты разглядаюцца ня збоку іх «правільнасьці» ці «няправільнасьці» (у мове, як і ў прыродзе, усё «правільна», бо ўсё законна), а збоку іх даўнасьці, пашыранасьці або ці прыняты яны ў літаратурнай мове, а ў некаторых разох толькі апісваюцца».

Гэтыя думкі і меркаванні Язэпа Лёсіка яшчэ паўней і выразней праліваюць святло на ягоныя моўныя пазіцыі, на пазіцыі грамадзяніна і патрыёта свайго народа наогул. Ужо толькі па іх можна адназначна сказаць, што ў сваёй працы даследчык абапіраўся на гісторыю беларускай мовы, на яе традыцыі, на набыткі сваіх папярэднікаў.

Да месца тут, думаецца, словы Якуба Коласа, якія ён, праўда, сказаў пра сябе, але іх можна спаўна аднесці і да ягонага дзядзькі Язэпа: «Я гавару аб мінулым, бо жыву сучасным і думаю аб наступным».

У 1922 годзе на базе Навукова-тэрміналагічнай камісіі Народнага камісарыята асветы БССР ствараецца Інстытут беларускай культуры. Праз два гады яго ўзначальвае Усевалад Ігнатоўскі і адразу ж запрашае да сябе працаваць Язэпа Лёсіка. Ужо тады вядомы гісторык, будучы першы прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі, бачыў патэнцыяльныя магчымасці вучонага-мовазнаўцы, разумеў значэнне яго прац і даследаванняў. Бачыў Ігнатоўскі і іншае: з Лёсікам лічыліся не толькі літаратары Янка Купала, Якуб Колас, Цішка Гартны і іншыя, а і вядомыя даследчыкі з іншых галін: У. Пічэта і Я. Карскі, І. Замоцін і М. Бліадухо, С. Вальфсон і М. Янчук, У. Іваноўскі і М. Нікольскі, Д. Канчалоўскі і І. Салаўёў...

Стаўшы вышэйшай дзяржаўнай навуковай установай Беларусі, Інбелкульт аб'яднаў у сваіх сценах лепшыя сілы навукоўцаў. Калі ў самым пачатку 1926 года адной з васьмі асноўных секцый у ім стала секцыя беларускай мовы і літаратуры, Лёсік быў у ёй вядучым спецыялістам - мовазнаўцам. З ім раіліся і кансультаваліся пры вызначэнні напрамкаў ажыццяўлення моўнай палітыкі ў рэспубліцы, разам з іншымі калегамі - вучонымі ён абараняў беларускую мову ад нападкаў самых розных рэфарматараў і «аматараў» новаўвядзенняў і паправак. Язэп Юр'евіч стаяў за чысціню роднай мовы.

«У аснове правапісных нормаў Лёсіка, — адзначае пісьменнік Яўген Лецка, — быў лад народнага маўлення з яго найбольш яскравымі асаблівасцямі, у прыватнасці, змякчэннем зычных — адной з найбольш прывабных адметнасцяў нашай мовы, якая шмат дае для яе мілагучнасці і адпавядае самой сутнасці носьбіта мовы, нацыянальнаму характару».

Так, распрацоўку тэорыі беларускай мовы Язэп Лёсік вёў не на голым месцы. Ён абапіраўся на навуковыя працы сваіх папярэднікаў, якія яшчэ ў канцы XVIII стагоддзя пачалі пошукі, публікацыю і вывучэнне самых розных літаратурных і мовазнаўчых помнікаў, што характарызавалі грамадска - палітычнае і культурнае жыццё беларускага народа ў часы знаходжання Беларусі ў складзе Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Спрыяла Лёсікавай дзейнасці як мовазнаўцы, несумненна, і тое, што ягоным непасрэдным папярэднікам і адначасова калегам і паплечнікам у даследаванні роднай мовы з'яўляўся наш выдатны зямляк, савецкі філолаг-славіст, заснавальнік беларускага мовазнаўства, філалогіі і фалькларыстыкі акадэмік Яўхім Карскі, капітальная трохтомная праца якога «Беларусы» ўжо пры жыцці яго была названа сапраўднай беларускай энцыклапедыяй. Напрамкі даследавання народнай славеснасці, мовы ў яе гістарычным развіцці Лёсік чэрпаў менавіта з «Беларусаў».

У сярэдзіне кастрычніка 1928 года пастановай Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта і Савета Народных Камісараў Беларусі Інстытут беларускай культуры быў рэарганізаваны ў Беларускую акадэмію навук. А напрыканцы года Саўнарком БССР зацвердзіў і першы састаў правадзейных членаў акадэміі. Акадэмікамі сталі вядомыя беларускія вучоныя і дзеячы культуры: глебазнаўца Я. Афанасьеў і геолаг М. Бліадухо, эпізаатолаг С. Вышалескі і эканаміст-географ Г. Гарэцкі і правазнаўца М. Грэдынгер, гідрагеолаг А. Дубах і аграхімік М. Малюшыцкі, эканаміст І. Пятровіч і філосаф С. Вальфсон, філолагі М. Дурнаво, І. Замоцін, С. Некрашэвіч, Б. Тарашкевіч і гісторыкі У. Ігнатоўскі, С. Матулайціс, У. Пічэта, А. Ясінскі, народныя паэты Беларусі Янка Купала і Якуб Колас, вядомы грамадскі дзеяч і пісьменнік Цішка Гартны... Правадзейнымі членамі Беларускай акадэміі навук былі зацверджаны таксама буйныя вучоныя краіны, якія ўнеслі вялікі ўклад у развіццё нашай нацыянальнай навукі: акадэмікі АН СССР А. Карпінскі, В. Вільямс, М. Мар, С. Ольдэнбург, М. Пакроўскі і акадэмік Усеўкраінскай акадэміі Д. Забалотны, М. Скрыпнік, П. Туткоўскі.

Ва ўсіх без выключэння афіцыйных даведніках, навуковых працах, у кнігах і буклетах, прысвечаных развіццю ў Савецкай Беларусі навукі і культуры, а таксама выданнях аб гісторыі Акадэміі навук БССР пасля пераліку гэтых прозвішчаў **абавязкова** (падкрэслена мной. — **А. М.**) пішацца слова «і іншыя».

«...І іншыя» — гэта маецца на ўвазе ён, Язэп Юр'евіч Лёсік.

У 1979 годзе, калі Акадэмія навук Беларусі святкавала свой паўвекавы юбілей, пабачыла свет прыгожа аформленая кніга, у якой асвятляліся асноўныя этапы станаўлення і развіцця галоўнага навуковага цэнтра рэспублікі. Яна так і называлася — «Акадэмія навук Беларускай ССР». Навуковым рэдактарам выдання з'яўляўся тагачасны прэзідэнт Акадэміі навук, акадэмік М. Барысевіч. У канцы кнігі змешчаны спецыяльны раздзел «Даведачныя даныя», у якім, сярод іншых,— і алфавітны спіс правадзейных членаў і членаў-карэспандэнтаў АН БССР па стану на той, 1979 год. Месца для Я. Лёсіка і ў гэтым спісе «не знайшлося»...

Чаму?

Аб гэтым апошні раздзел аповесці...

«Калі я праходжу па вуліцах Менску і чую беларускую мову, то слухаю яе, як музыку». Так сказаў аднаго разу Язэп Лёсік свайму брату Антону. Сказаў проста і шчыра — ад усяго сэрца. Яго радавала і натхняла шырокая плынь нашай нацыянальнай мовы, літаратуры, асветы і культуры, што сапраўднай хваляй усё больш і больш накатвалася на родную старонку. Цвяроза ацэньваючы свой асабісты ўклад у гэтую плынь, Язэп Юр'евіч усведамляў, што зрабіць трэба яшчэ вельмі і вельмі многа.

Наданне яму годнасці акадэміка ён успрыняў з задавальненнем, хоць разумеў: гэта вялікі аванс на будучыню. Лёсік ведаў, што тут найперш спрацавала рэкамендацыя Усевалада Ігнатоўскага. Шчыра парадаваўся і ён за Усевалада Макаравіча, калі той практычна аднагалосна быў абраны першым прэзідэнтам Беларускай акадэміі навук.

Аднак, будучы перадавымі людзьмі часу, і Лёсік, і Ігнатоўскі, і многія іншыя іх калегі і таварышы бачылі і адчувалі: пачынаецца наступленне іншых сіл на ўсё беларускае: навуку, культуру, асвету...

У 1927—1929 гадах, а яшчэ ў большай меры пазней, на пачатку трыццатых, на ўсю моц ішла ўжо пагалоска аб беларускіх нацыяналістах. На хвалі гэтак званых рэвалюцыйных парыву, уздыму і энтузіязму нацыяналістычнымі аб'яўляліся ўсе нават самыя нязначныя спробы вылучыць з мноства асаблівасцяў у культуры, мове, асвеце і плыняў у літаратуры нашыя, выключна беларускія характэрныя рысы і адрозненні: традыцыі і схільнасці, звычаі і памкненні народа. Тое ж, што ўсё гэта нашае, нацыянальнае, мала хто хацеў слухаць: да ўсяго клеіўся ярлык нацыяналізму.

На першым часе Савецкай улады ў Беларусі, пакуль яе ўзначальвалі Аляксандр Чарвякоў, Вільгельм Кнорын, Язэп Адамовіч, усё ішло як мае быць. Яны асабіста, штодзённа падтрымлівалі беларускіх нацыянальных дзеячаў, усяляк спрыялі іх плённай і патрэбнай нашаму народу рабоце.

Але вось здалёк, з Масквы і Ленінграда, даносяцца першыя звесткі пра «ворагаў народа». Сталін ганьбіць рэвалюцыянізм Троцкага. Яго на першым этапе падтрымліваюць Каменеў і Зіноўеў. Усплывае «шахцінская справа»: інжынеры і тэхнікі Данбаса, аказваецца, аб'ядналіся ў «контррэвалюцыйную арганізацыю». Далей—болей: выяўляецца «шкодніцкая дзейнасць» Прампартыі, Працоўнай сялянскай партыі, Саюзнага бюро меншавікоў... І г. д., і да т. п. Адтуль жа, з Масквы, паступае катэгарычная і адназначная каманда: выяўляць і самым строгім чынам караць «саўдзельнікаў» контррэвалюцыі і наццэмаўшчыны, спачуваючых ім. Газеты, у тым ліку і «Звязда», «Савецкая Беларусь», «Беларуская вёска» з нумара ў нумар кляймяць шкоднікаў ганьбай, заклікаюць шырокія масы працоўных да рашучай барацьбы з імі.

Быў зняты з пасады і выключаны з партыі прэзідэнт Акадэміі навук Усевалад Ігнатоўскі, арыштаваны і сасланы многія дзеячы культуры, навукі, літаратуры, у тым ліку і родны дзядзька Язэпа Лёсіка.

Пакутнікамі сваёй Бацькаўшчыны, заложнікамі палітычных інтрыг станавіліся сумленныя, высакародныя людзі, маральна чыстыя перад сваім народам.

Ганенні на Лёсіка пачаліся намнога раней, чым на іншых. Яшчэ ў 1921-м, адразу ж пасля выхаду ў свет ягонай «Практычнай граматыкі беларускае мовы», «Звязда» назвала падручнік... контррэвалюцыйным. Вось адкуль зыходзіў пачатак наступных праследаванняў і пакут беларускага вучонага...

Але ж што магло быць «контррэвалюцыйным» у тым вучэбным дапаможніку?

Правілы граматыкі?

Прыклады для навучання?

Не, хутчэй за ўсё «контррэвалюцыйным» стаў сам факт выхаду першай у гісторыі Беларусі «Практычнай граматыкі...» нашай роднай мовы для шырокіх народных мас.

Дзякуй Богу, тады на гэтае абвінавачванне ўлады не звярнулі ўвагі. Хоць і неабгрунтаванае, жорсткае, а галоўнае — несправядлівае, ды «ворагі народа», «контррэвалюцыянеры», «нацдэмы», прыхільнікі розных ухілаў тады яшчэ мроіліся і ўяўляліся вельмі і вельмі нямногім. Масавай хваробай гэтая з'ява стане пазней.

Працуючы над падручнікамі і вучэбнымі дапаможнікамі для школ і тэхнікумаў (а па многіх з іх вучыліся і студэнты вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі), Язэп Лёсік у палітыку практычна не лез. Ён заставаўся ў многім на сваіх пазіцыях, светапогляд ягоны мяняўся паволі і далёка не па ўсіх кірунках. Сумленнаму і шчыраму чалавеку гэта ўвогуле даецца няпроста... Тым не менш, паўтару, беларускаму народу і ягонай нацыянальнай справе вучоны служыў верай і праўдай, аддана і адназначна.

Тым не менш, ДПУ пачало турбаваць Лёсіка адным з першых — ужо ў сярэдзіне 20-х. Людзі з чырвонымі пасведчаннямі з'яўляліся то на рабоце, то дома... Спачатку цікавіліся працай і жыццём наогул, потым — спакваля — пачалі ўнікаць у лёс і біяграфію. А там, як вядома, «падстаў» і «прычэпак» было больш чым дастаткова...

І вось — першы арышт, хоць і чыста ўмоўны. Аб ім даведваецца брат Антон і шле ў Народны камісарыят асветы тэлеграму пратэсту. Ходзіць па інстанцыях і спрабуе даказаць усім, што з мінулым даўно пакончана, жонка Язэпа Юр'евіча Ванда Лявіцкая. Адны высокапастаўленыя чыноўнікі адказваюць, што «нічым дапамагчы не могуць», іншыя разводзяць рукамі: значыцца, не так проста арыштавалі, мабыць, ёсць за што... Рашучы і адназначны голас нязгоды падае Усевалад Ігнатоўскі. «Калі не вызваліце Лёсіка, дык саджайце тады і мяне», — гучна заяўляе ён кіраўнікам ДПУ. З Усеваладам Макаравічам яшчэ лічыліся, а, мабыць, і пабойваліся яго, і Язэпа адпускаюць...

«І што б я рабіў без гэтага разумнага і памяркоўнага чалавека — проста не ведаю! — не адзін раз казаў Язэп Юр'евіч жонцы. — Ён і на рабоце гарыць, і душу кожнага з нас адчувае не горш, чым сваю...»

Ванда Антонаўна была чалавекам адукаваным і дасведчаным. Яна сама спрабавала сілы ў літаратурнай творчасці, пісала неблагія апавяданні, друкавалася яшчэ ў «Нашай ніве»... Характары людзей, іх шчырыя памкненні жонка Лёсіка разумела вельмі добра. Поспехам у справе адраджэння беларускай нацыянальнай культуры, навукі і асветы і Усевалада Ігнатоўскага, і яго, Язэпа Лёсіка, яна радавалася аднолькава шчыра.

Асабістая ж дружба двух акадэмікаў, двух перадавых людзей таго часу, іх паважлівыя адносіны адзін да аднаго паглыбляліся і пашыраліся з дня ў дзень. І Ігнатоўскі, і Лёсік надзвычай высока цанілі справу сябра...

У 1926 годзе на пасадзе народнага камісара асветы БССР У. Ігнатоўскага змяніў Антон Баліцкі. Доўгі час з'яўляючыся намеснікам Усевалада Макаравіча, ён і надалей — праўда, усяго толькі тры гады — будзе прадаўжаць і ўдасканальваць справу папярэдніка, рабіць усё, каб беларуская асвета крочыла наперад, заваёўвала новыя далягляды і абшары. Лёс наркома Баліцкага складзецца, дарэчы, гэтак жа, як і лёсы многіх ягоных сяброў і паплечнікаў: яго арыштуюць ужо ў першы «заход» масавага тэрору ў 1930-м... Праз пяць гадоў ён памрэ, не вытрымаўшы нечалавечых выпрабаванняў і катаванняў у лагеры палітычных зняволеных непадалёк ад станцыі Мядзведжая Гара Мурманскай чыгункі, дзе разам з іншымі вязнямі ГУЛАГа рыдлёўкай капаў Беламорска-Балтыйскі канал імя Іосіфа Сталіна.

Але гэта пакуль што наперадзе... А тады Антон Баліцкі горача бярэцца за справу. У лістападзе 1926 года сумесна з Інстытутам беларускай культуры народны камісарыят асветы арганізоўвае Акадэмічную канферэнцыю па рэформе беларускага правапісу і азбукі. Гэтае мерапрыемства мела вялікае палітычнае значэнне, яно сведчыла аб імкненні беларускіх вучоных, і найперш мовазнаўцаў, заявіць аб сабе ў поўны голас, паказаць, што ў аснове роднай мовы ляжаць багатыя і слаўныя традыцыі, гістарычны прынцып фарміравання яе як роўнай сярод роўных у сям'і славянскіх моў.

Уласна кажучы, у аснове большасці матэрыялаў і дакументаў канферэнцыі ляжалі працы і распрацоўкі Язэпа Лёсіка. Ужо мелі вялікую прыхільнасць і папулярнасць не толькі ў вучоным свеце, але і ў народзе ягоныя падручнікі і вучэбныя дапаможнікі «Беларускі правапіс», «Школьная граматыка беларускае мовы», «Сынтакс беларускае мовы», «Практычная граматыка беларускае мовы» і іншыя даследаванні, у якіх вучоны найперш распрацаваў правілы беларускага правапісу. У ягоную аснову Язэп Юр'евіч клаў фанетычны прынцып напісання слоў, асабліва — іншамоўных па паходжанню. Граматычныя і арфаграфічныя змяненні ў наш правапіс, якія Лёсік пачаў уносіць у 1925 годзе, таксама знайшлі падтрымку вучоных-мовазнаўцаў.

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

Працяг. Пачатак у №№ 1, 2.

## ГАРАЧЫ ЖНІВЕНЬ 1991 ГОДА

# УСЁ СКАЧА ТОЙ РЫЦАР НА БЕЛЫМ КАНІ...

**Упершыню журналісту з Беларусі дае інтэрв'ю наш суайчыннік у ЗША, рэдактар газеты «Беларуская думка», паэт і празаік Міхась КАВЫЛЬ.**



**— Паважаны спадар Міхась, дазвольце павіншаваць вас з нядаўнім выхадам у БІНІМе зборніка выбраных твораў «Міжагнёўе». Я думаю, што гэты том, складзены ў асноўным з паэтычных твораў, па праву зойме сваё месца ў беларускай літаратуры. Калі чытала вершы зборніка, напісаныя «гарачай крывёю сэрца», адчувала і вашу жывую душу, што пакутуе без васільковых прастораў, і атмасферу тых жахліва-загадкавых 30-х і 40-х гадоў.**

**Баліць душа. Пажаліцца
камуǃ
Каму сказаць, што ты
не вінаватыǃ
Адзін, адзін.
Наўкол халодны мур.
Ды чорныя тырчаць у вокнах
рэбры кратаў...
Памятаецеǃ**

**Гэта напісана ў 1933 годзе ў Мінску. Прыгадайце, калі ласка, як вы апынуліся за кратамі па абвінавачанні ў контррэвалюцыйнай дзейнасці.**

— У 1930 годзе я паступіў вучыцца ў Белпедтэхнікум імя Усевалада Ігнатоўскага на пазашкольнае аддзяленне. Студэнты тут чуліся вольнымі людзьмі. У літаратурным гуртку вялі спрэчкі аб значэнні і прызначэнні літаратуры, аб беларусізацыі ды іншых праблемах. Я быў сябрам «Маладняка», друкаваўся ў «Піянеры Беларусі», у літаратурным дадатку да бабруйскай абласной газеты. Увесь быў такі савецкі хлопец: пісаў вершы, у якіх услаўляў сацыялістычную яву, падпісваўся— Язэп Маёвы. Я ды і мае сябры—Астрэйка, Сядура, Гуцько, Русаковіч, Гайка, Гінтаўт — былі, так бы мовіць, мройнікі, неспрактыкаваныя ў палітыцы, прымалі за чыстую манету ленінскую «свабоду слова», былі часам нястрыманыя ды неаглядныя ў сваіх учынках. Не думалі, што «нядрэмлючае вока» пільна сочыць за кожным. Не маглі і ўявіць, што нават бязвінная гульня будзе мець катастрафічныя вынікі. Гэта я ў адносінах да значкоў Саюза ваяўнічых бязбожнікаў—скарочана СВБ. Тры гэтыя літары мы паміж сабою ў жарт сталі трактаваць як Саюз вызвалення Беларусі. Са звычайнай хлапечай дурніны вырасла пазней справа...

А то напісаў я неяк верш пра беспрытульнага, у якім аплакваў цяжкую долю сына забітага ў часе рэвалюцыі героя-камендзера.

Панёс верш да Крапівы, дык ён прачытаў і кажа: «Такіх вершаў мне болей не насі». Крапіва то, мусіць, па-сяброўску, па-свойску хацеў мяне папярэдзіць...

Як я цяпер разумею, грахамі на мне павіслі і адмова ад вучобы ў вайсковай школе, уцёкі з уборкі бульбы ў саўгасе «Сляпянка», дзе мы мусілі выбіраць клубні з мёрзлай зямлі. Тады ж здавалася, што ўсё ідзе як найлепш. Пакуль аднойчы за мной не прыйшла жанчына ў чорнай скуранцы — следчая Навіцкая — і не завяла ў ДПУ.

**— Выбачайце, прашу вас ва ўсіх дэталях апісаць гэты выпадак.**

— Чорная дама здала мяне нейкаму службоўцу. (Яго прозвішча было Браткоўскі). Той у мяне пра ўсё распытваў: і хто бацькі, і як выконваю грамадскую нагрузку, і як вучуся. Пачаў размову пра «варожыя вылазкі», я не стаў утойваць, расказаў пра строгую вымову з папярэджаннем, якую атрымаў за ўцёкі з бульбы. Браткоўскі паліставаў нейкія паперы, па аднэй прабег вачыма і сказаў: «Гэта было год таму. Ад гэтага часу да сёння з цябе строгую вымову не знялі, бо не заслужыў. Напісаў ты, як нам ведама, пару добрых вершаў. Гэтага мала. Мусіш зрабіць больш. Нас цікавяць твае былыя сябры: Сядура, Астрэйка, Калюга, Русаковіч, Гінтаўт, Гайка. Па-першае, дзе яны цяпер знаходзяцца, а, па-другое, і гэта галоўнае, што яны думаюць?» Тут мяне нешта штурханула ў сэрца: «Не кажы!» І я зманіў: «З усіх вамі пералічаных студэнтаў сябрам сваім я магу назваць, дый то з натугай, толькі Сяргея Русаковіча, а рэшта—знаёмыя. Дзе яны цяпер, я не ведаю». Браткоўскі рэзка падняўся і са словамі, «калі не ведаеш, дык даведайся», паклаў перада мной лісток паперы і сказаў распісацца аб неразгалошванні.

**— Хлопцу ў 18 гадоў загадваюць даносіць на сваіх сяброў... Ці разумелі вы, што ад таго вашага выбару — даносіць альбо не даносіць—залежыць іх лёс!**

— Было вельмі цяжка. Ад мяне вымагалі прадаваць сяброў. Ад аднаго гэтага слова кідала ў дрыжыкі. Ніякай надзеі на тое, што ўдасца схітрыць і абмануць Браткоўскага, не заставалася, бо людзі казалі, што ДПУ і рэкі бачаць пад зямлёю. Я адчуваў, што мяне чакае ў выніку адмовы. Тым не менш я прыняў рашэнне папярэдзіць сяброў. Што неўзабаве і зрабіў. Браткоўскі мяне болей не турбаваў. Без усялякіх тлумачэнняў мяне забралі з вечара, які праходзіў у тэхнікуме з нагоды Дня Чырвонай Арміі — 23 лютага 1933 года, пасадзілі ў «чорны воран» і адвезлі ў турму.

Варфаламееўская ноч для Міхася Лешчанкі (Кавылём ён стаў пазней) цягнулася шэсць месяцаў. Ён і цяпер не можа спакойна расказваць пра тыя здзекі, якія прыйшлося перажыць. Амаль кожную ноч—допыты. «Хто цябе завербаваў?», «Каго ты завербаваў?» — ад гэтага пытання можна было звар'яцець. Даведзены да адчаю, Міхась парэзаў сабе вену. Няўдалая спроба самагубства абярнулася для юнака карцарам. Аднойчы на допыце следчая Навіцкая паказала Міхасю паштовую картку з выявай герба Вялікага княства Літоўскага і з іроніяй сказала: «Вось за што ты змагаўся», маючы, відаць, на ўвазе міфічны «Саюз вызвалення Беларусі».

— Я прыгледзеўся да малюнка. У вочы кінуўся белы конь, а на ім рыцар з мячом у руцэ. У жоўтым вянку, што абрамляў рыцара на белым кані,—гербы беларускіх ваяводстваў, а ўнізе словы: «Няхай жыве Беларуская народная рэспубліка!» Гэты герб і словы мяне так уразілі, што я, ня думаючы пра вынік, сказаў: «Так, я змагаўся й буду змагацца за гэта».

Лёс чарговага «ворага народа» быў вырашаны. «На перавыхаванне» на тры гады яго разам з іншымі непакорлівымі выслалі ў канцэнтрацыйны лагер на Далёкі Усход. За ўдарную работу скінулі чатыры месяцы. Калі ўзімку 1936 года прыехаў дамоў, на Случчыну, жыць яму там не дазволілі, бо вёска знаходзілася ў прыгранічнай паласе.

Мусіў ехаць у Варонеж, да знаёмых. Праўдамі і няпраўдамі ўладкаваўся на працу і на вячэрнія заняткі ва універсітэт. Стаў пісаць вершы, якія з'явіліся ў 1938 годзе ў альманаху «Непераможная». Але ў тым жа годзе адбылася «чыстка горада ад ненадзейных элементаў», пад мятлу якой трапляе і Міхась Лешчанка. Як загнаная птушка, ён спрабуе прыткнуцца то ў Арле, то каля сваіх у Беларусі, то зноў у Варонежы. Ад яго, як ад пракажонага, адварочваюцца былыя знаёмыя і сябры. Рэпутацыя «ворага народа» зачыняе, па сутнасці, для здольнага хлопца дарогу, магчымасць займацца педагагічнай або якой іншай інтэлектуальнай працай. Але ён нечакана спатрэбіўся радзіме. З пачаткам Вялікай Айчыннай вайны яго мабілізавалі ў армію і пасля вайсковых курсаў адправілі на перадавую. Танкавая часць, у якой служыў М. Лешчанка ў разведцы, апынулася ў акружэнні. Пасля няўдалага прарыву разам з тысячамі салдат трапіў у палон.

— У лагеры ваеннапалонныя ад голаду мелі псіхоз. Былі выпадкі, што елі жывых людзей... Многія не вытрымлівалі. Мы дамовіліся з адным хлопцам пільнаваць адзін аднаго па чарзе, каб нехта не загрыз уначы. Пра ўцёкі і гаворкі не было. Зусім аслабелі, чакалі галоднай смерці. Аднак раптам прыехалі прадстаўнікі нейкіх арганізацыяў выручаць з бяды братоў-беларусаў. Аб'явілі: «Хто хоча змагацца са Сталіным—тры крокі наперад».

**— Ці былі ў вас у той момант нейкія ваганні!**

— Выйсця не было. Бачыце, каб я не ведаў, што Сталін палонных не прызнае, нават ад свайго сына адмовіўся... Я ж быў разведчыкам, нам загад пра тое зачытвалі. Так што я быў прымушаны зрабіць гэтыя крокі.

**— Вы кажаце, што ў вашым вызваленні з палону ўдзельнічалі прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў. Мусіць, гэта таксама адыграла сваю ролю ў вашым выбары!**

— Я быў самы звычайны савецкі чалавек. Нацыянальна маласвядомы. Даволі цьмянае ўяўленне меў нават і пра гісторыю Беларусі. Шмат ведаў атрымаў на курсах у Кельцах у Польшчы, куды былі накіраваны былыя савецкія ваеннапалонныя. На многае стаў глядзець іншымі вачыма.

**— А ці былі ў часе нямецкай акупацыі ў Беларусі!**

— Так. Пасля тых курсаў я апынуўся ў Менску. Мяне прызначылі на працу ў генеральны камісарыят у прапагандовы аддзел. Ён не належаў да БЦР. Трэба сказаць, што мы там увогуле мала што рабілі. Шыльда толькі адна. Прыйдзем, бывала: Валянцін Казлоў, мастак Селюкоў, Граковіч, Аня Катковіч — наша сакратарка, абмяркуем навіны і разыходзімся. Далі неяк мне такую крытую брызентам машыну, што прайгравала пласцінкі. Я еду на ёй па менскіх маркетах (магазінах.— Т. А.) і чытаю зводкі з фронта. Гэта працягвалася якіх два тыдні. Затым партызаны падклалі міну—узарвалі той агрэгат. Наступнае заданне было хадзіць па маркетах і слухаць, што людзі гавораць. Немцы хацелі ведаць, якія настроі ў народзе. А хіба ж людзі дурныя ўслых казаць пра тое, што яны думаюць пра немцаў?! Я ж тады ў сваім данясенні спецыяльна напісаў, як быццам чуў на рынку: «Людзі кажуць, што немцы вайну прайграюць». Начальнік усёй прапаганды — Шрэтар запатрабаваў тады, каб я абгрунтаваў, даказаў фактамі гэтае меркаванне. Але ж чым тут абгрунтуеш?

А ўвогуле свае адносіны да фашыстаў я выказаў пазней у вершах:

**Не!
У вайне
двух Калосаў
Галасіць голасна
Няма чаго
рабом белым.
Ілбом сьмела
біць у дзьверы
«правадыроў».
Ня «Ура».
Ня «Гайль».
Няхай жыве
Незалежная!
Кожны,
дзе можа,
Загады
пры нагодзе
абыходзіць.
Перад гáдам
на калені
ня падаць.**

**— У 1943 годзе вы былі ў Мінску. Якраз тады партызаны ажыццявілі ў горадзе вялікія акцыі: быў падарваны тэатр, казіно нямецкае, забіты тыя беларусы, якія супрацоўнічалі з нямецкай адміністрацыяй, пазней—Кубэ... Якое адчуванне было асабіста ў вас, у іншых мірных жыхароў горада пасля тых актаў помсты!**

— Што датычыцца мяне, то я апынуўся, так бы мовіць, між двух агнёў. Нездарма ж тая кніжка, што выйшла ў БІНіМе, мае назву «Міжагнёўе». Яна адлюстроўвае сутнасць майго становішча. З немцамі братэрства не было, я ўвесь час быў з імі насцярожаны. Хаця я быў і рэпрэсіраваны савецкай уладай, але ўсё роўна ўва мне быў дух савецкі. Я быў не вораг сваім. І таму не мог не радавацца ў душы, калі фашысты атрымлівалі па заслугах. Але кожная акцыя партызан выклікала адпаведную рэакцыю акупантаў, і за гэта якраз расплачваліся мірныя жыхары. Колькі беларусаў перабілі немцы за гэтых афіцэраў у казіно! Рабілі проста: акружалі Чэрвенскі рынак, хапалі ўсіх мужчын, якія там апынуліся. А пасля расстрэльвалі або вешалі. Так было і за ўзарваны тэатр. Чаго партызаны хацелі дасягнуць гэтым? Загубленыя жыцці нявінных людзей на іх сумленні.

У сваёй аўтабіяграфіі Міхась Лешчанка піша: «У Менску жыцьцё было неспакойнае. Хутка ізноў давялося ўцякаць. Затрымаўся ў Баварыі. Пасьля працаваў на авіязаводзе ў месьце Цыбаў кіраўніком беларускае моладзі. Галоўным маім заданьнем было не даваць у крыўду дзяцей, якіх вывезьлі зь Беларусі й ня вельмі зьвярталі ўвагу на іхнюю юнацкую уніформу. Я стараўся бараніць хлапцоў, колькі мог. Дастараўся да таго, што мне ўшпілілі шэсць месяцаў канцлягеру».

Ад канцлагера ўратавалі дырэктар авіязавода Бах і неўзабаве прыйшоўшыя амерыканскія танкі... Для Міхася пачалося жыццё ў лагерах ДП (перамешчаных асобаў). «У гэтым няпоўным і нявыразным часе апанавала мяне туга й роспач, — прыгадвае М. Лешчанка.—Сябра мой Іван Кір'янаў, якому я прысьвяціў першы свой зборнічак вершаў «Ростань», пакончыў самагубствам у Рэгенсбургу. Я пастанавіў шукаць ратунку ў працы».

Многія лічаць, што эмігранты—гэта людзі, якія шукаюць больш лёгкага хлеба, маюць малую прывязанасць да свайго кута, ну нешта накшталт перакаці-поле. Па формуле: «Радзіма там, дзе мне добра». Напэўна, ёсць і гэткія. Для такіх жа, як Міхась Лешчанка, эміграцыя, —вы-

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

# ЗОРКА РЫГОРА ШЫРМЫ



Калі дазваляе наша тлумнае жыццё, услухоўваюся ў дваццацікіламетровыя стужкі, дзе гучыць мяккі, мудры, па-паляшуцку окаючы голас найпрыгажэйшага з беларусаў — Рыгора Раманавіча Шырмы, стагоддзем з дня нараджэння якога свеціцца сёлета ў студзені наш нацыянальны каляндар. Сэрца грызе туга: як яго нам сёння не хапае, бо ўсё яго вялікае, доўгае, глыбокадумнае жыццё працавала на наш час нацыянальнага Адраджэння. 12 зборнікаў беларускіх народных песень і іх апрацовак, сярод якіх унікальныя — чатырохтомнік народных песень з нотамі і двухтомнік — разнастайнейшых апрацовак іх, створаная ім Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла, зборнік палымянай публіцыстыкі ў абарону нацыянальнай спадчыны «Песня — душа народа», мудрае кіраўніцтва Саюзам кампазітараў Беларусі ў апошнія дзесяцігоддзі жыцця — усё гэта і многае іншае непасрэдна ўключана ў жыватворныя сучасныя працэсы аднаўлення нашага нацыянальнага аблічча.



Для мяне вельмі сімвалічна, што «Зорку Венеру» ў 1935 годзе на Навагрудчыне запісаў іменна Рыгор Раманавіч, бо зорка самога Шырмы толькі цяпер у поўную веліч разгараецца на яшчэ цьмяным нашым нацыянальным небасхіле. Таму вельмі павучальна паглядзець вачамі сучасніка на асноўныя вехі жыцця чалавека, які прысвяціў яго не зменлівым, часта наменклатурным, меркантыльным сацыяльным ідэям, а амаль заўсёды ганімай, але святой, а таму заўсёды пераможнай нацыянальнай ідэі. Ва ўсіх трох жыццёвых пеклах — расейскім, польскім і савецкім — афіцыйныя кругі вешалі на Шырму ярлыкі «нацыяналіста», «наццэма», «ворага савецкага народа» і да т. п. А мудры з юнацтва, прыгожы знешне і багаты ўнутрана, спачатку настаўнік літаратуры і спеваў, потым рэгент і арганізатар шматлікіх харавых калектываў, збіральнік, даследчык і прапагандыст роднай песні, палымяны змагар за беларускую школу ў Заходняй Беларусі і таленавіты харавы дырыжор горда крочыў праз усе жыццёвыя перашкоды, **ні разу** не здрадзіў свайму народу, не збочыў са сцежкі служэння «простай сяляначцы — беларускай народнай песні».

Першае антынацыянальнае пекла было царска-расейскае да 1921 года. Калі ўглядаешся ў першы здымак пятнаццацігадовага юнака, вучня Пружанскага гарадскога вучылішча, здзіўляе яго незвычайны для хлопчыка з беднай сялянскай сям'і з невялічкай вёскі Шакуны знешні арыстакратызм. Ужо тут ён пацягнуўся да струнных народных інструментаў, як найбольш блізкіх да чалавечага голасу і да роднай песні. Але тут ён ужо адукаваны хлопец, які стаў хутка лепшым вучнем, хоць і атрымаў чацвёрку па гісторыі. За тое, што не ведаў, як звалі сёмую жонку Івана Грознага, а на самай справе таму, што ўдзельнічаў у паніхідзе па Сталыпіну.

Першыя хоры ён стварыў ужо ў гады вучобы на Свянцянскіх педагагічных курсах у 1911—1912 і ў Седлецкім настаўніцкім інстытуце ў 1914—1916 гадах. Але страшэнна ўразіла і абурыла, што для гэтых хораў не змог знайсці апрацоўкі беларускіх народных песень. «Ужо тады я пакляўся сам сабе запоўніць гэту пустку і гэтую клятву выканаў», — гаварыў Рыгор Раманавіч пасля выхаду двухтомніка апрацовак.

«Наўрад ці я стаў бы пісьменнікам, каб не сустрэў на сваім шляху Р. Р. Шырму», — пісаў у наш час знакаміты аўтар «Белага Біма Чорнае вуха» Гаўрыла Траяпольскі — вучань Шырмы ў школе сяла Навагольскага Варонежскай губерні, дзе Рыгор Раманавіч выкладаў літаратуру ў 1918—1921 гадах.

Але не мог сын свайго народа ў цяжкую хвіліну быць далёка ад яго, ды і хворая маці вельмі прасілася хоць памерці на роднай зямельцы. Пасля рэпатрыяцыі ён арганізуе на радзіме ў Пружанах хор і працуе псаломшчыкам у Аляксандра-Неўскім саборы. «Царкоўная музыка выдатна дапамагала тады як сродак барацьбы супраць польскага заалагічнага нацыяналізму», — гаварыў аб гэтым будучы рэгент царкоўных хораў у Вільні, куды Шырма пераехаў у 1925 годзе. Ён вучыць спяваць родныя песні вучняў вядомай Віленскай беларускай гімназіі, сярод якіх аказаўся і будучы выдатны паслядоўнік Шырмы, тады вучань суседняй праваслаўнай духоўнай семінарыі Генадзь Цітовіч: «1926 год. Бязмэтна блукаю па квадраце сціснутага старымі манастырскімі сценамі двара. І раптам з напаўадчыненага акна палілася беларуская народная песня, за ёю другая, трэцяя. Чымсьці родным, блізкім дыхнула на мяне. «Сасна?». — Ды гэтую ж песню і ў нас спяваюць. Але тут прыгажэй. «Перапёлачку» я ўжо слухаю ў зале, захаваўшыся ў далёкім вугалку — таму што перад хорам строгі рэгент... Закончылася гэтая генеральная рэпетыцыя, і куды дзелася сур'ёзнасць кіраўніка. Ён стаіць цяпер з добрай усмешкай у акружэнні моладзі, а тую дзяўчынку, што запявала «Зязюльку», нават па галоўцы па-бацькоўску пагладзіў. Ад выходзячых я даведаўся, што гэты рэгент — Шырма, беларускі пясняр. Сказалі гэта, ды яшчэ на мяне насмешліва: маўляў, хто ты такі, што Шырмы не знаеш!»

Успамінаючы заходнебеларускія часы, яшчэ адзін «хроснік» Шырмы паэт Максім Танк са здзіўленнем зазначаў, што ў наш час тую работу, якую праводзіў тады Рыгор Раманавіч, вядзе некалькі міністэрстваў. І сапраўды сакратар і фактычны кіраўнік культурна-асветніцкага Таварыства беларускай школы арганізуе беларускія гурткі, школы, хоры, чытае шматлікія лекцыі, ладзіць канцэрты, спектаклі, збірае і друкуе беларускія народныя песні і іх апрацоўкі, паэтычныя зборнікі і вершы беларускіх паэтаў. І гэта ва ўмовах жорсткай барацьбы з польскай санацыяй. Тройчы садзіла яна ў 30-я гады ненавіснага ім нацыянал-дэмакрата на лаву падсудных, а ён з годнасцю кідаў ім у адказ: «За вашымі пышнымі судзейскімі тогамі я бачу свае паляшуцкія світкі, дзеля асветы якіх мы працуем, і з гэтага шляху нас не спіхне ніхто», — што рабіла на суддзяў вялікае ўражанне.

Былі спробы цёплымі месцамі, матэрыяльнымі абяцанкамі (сям'я Шырмы жыла тады ў страшэннай галечы ў сырой паўпадвальнай кватэры) падкупіць. Аднойчы віленскі ваявода Бацянскі выклікаў і з парога, каб абразіць, пытае па-польску: «А чаму пан не паголены?» Але Шырма асадзіў яго: «А я, пане ваявода, нарадзіўся з бродай». Тады санатар прапануе Шырме прадаць ім запісы беларускіх народных песень, каб выдаць па-польску, але і тут фалькларыст астудзіў яго: «Каб перакласці іх на польскую мову, трэба геній Адама Міцкевіча, а інакш гэта будзе тое самае, што абліць гэты белы абрус атрамантам».

Не абышлося без правакацыі і з боку КПЗБ, якая, каб дыскрэдытаваць нацыянальнага дзеяча, выпусціла фальшыўку, што Шырма з'яўляецца агентам дэфензівы. Але прагрэсіўная заходнебеларуская інтэлігенцыя не паддалася на яе.

Пасля вызвалення Заходняй Беларусі былі першыя радасныя гады ў жыцці Шырмы: ён арганізуе ў Беластоку будучую Дзяржаўную капэлу, на кватэры настаўніка Антанюка, дзе ён жыў, сустракаецца са сваім любімым паэтам Янкам Купалам, з якім, хоць і завочна, у хуткім часе лёс зводзіць зусім на другой глебе — маскоўскай.

Вайна застала Шырму з калектывам у Расіі, таму іх пасля строгага конкурсу пакінулі для канцэртнай дзейнасці. У час гастроляў у Краснаярску, калі Шырма ішоў праведаць хворага спевака, падышлі двое з наганамі і пасадзілі ў машыну. У турме было адно патрабаванне: «Прызнайся, што ты нацыяналіст!» На што Шырма адказваў: «Калі вы маеце на ўвазе любоў да беларускага народа і яго песні — тады я нацыяналіст».

У 1942 годзе перавезлі ў Маскву і даводзілі да трызнення на Лубянцы. Потым падкормлівалі, выводзілі на свежае паветра на дах і зноў мучылі. Аднойчы маладзенькі лейтэнант жорстка паведаміў: «Ну вось, расправіліся і з апошнім вашым галоўным нацыяналістам». Я пытаю: «З кім?» — «З Янкам Купалам». Шырма не вытрымаў і заплакаў, што страшэнна ўразіла нават маладога ката.

На абарону вядомага майстра абурана паднялася лепшая частка блізкай да афіцыйных улад нацыянальнай інтэлігенцыі, і таму Шырму з-за адсутнасці доказаў вызвалілі.




Але таталітарнай сталінскай сістэме ён перашкаджаў. У 1951 годзе ў калектыў прысылаюць дырэктара з адзінай мэтай: дыскрэдытаваць кіраўніка, бо з яго, маўляў, зрабілі бажка. Калі задума правалілася, пачынае дзейнічаць карэспандэнт «Правды» П. Багаценкаў, які піша серыю паклёпніцкіх артыкулаў у «Советской Белоруссии» на Шырму і хор. Рэпертуар іх, быццам, кулацкая архаіка, якая не адлюстроўвае шчаслівага, заможнага жыцця савецкіх людзей. Але Шырма ў прэсе і ў запісцы ўраду з гонарам доказна абвяргае шавіністычныя наскокі.

Самым цяжкім быў удар, нанесены ў 1970 годзе, аб чым Рыгор Раманавіч з болем успамінаў: «Ніводную прастытутку з публічнага дома так не выганялі, як гналі мяне з капэлы. Паўсядзённымі званкамі «Пішыце заяву!» даводзілі да сардэчных прыступаў. І гэта пры ўсім тым, што на чале ЦК КПБ тады быў вядомы прыхільнасцю да нацыянальнай культуры П. Машэраў. Але сістэма спрацавала.

Аднойчы яшчэ адзін вучань Шырмы (колькі іх выгадаваў пад сваёй бацькоўскай кронай гэты палескі волат!) кампазітар Юрый Семяняка спытаў сустрэчнага француза ў Парыжы: «Ці ведаеце вы што пра Беларусь?» — «Зорку Венеру», — быў адказ. Вось у чым сімволіка пачатку артыкула.

Цяпер недабітыя ворагі беларушчыны паднялі ў Францыі свой віск аб штучнасці ўтварэння беларускага народа. Адказваць ім лічым няўдзячнай справай. І, наадварот, нязменны да канца жыцця кіраўнік Таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за мяжой Р. Шырма быў пуцяводнай зоркай для верных сыноў беларускага народа, якіх антынацыянальная сістэма выгнала з роднай зямелькі.



Дзякуй Богу, тыя змрочныя жахлівыя часы мінулі. І на святлеючым небасхіле святога, незваротнага, няўхільнага нацыянальнага Адраджэня ўсё больш ярка і бліскуча разгараецца Зорка Шырмы.

З заходнебеларускіх часоў у знак вялікай пашаны і нязмернай павагі прадстаўнікі нацыянальнай інтэлігенцыі паважна звярталіся да Шырмы: «Дзядзька Рыгор!» І таму пра яго не скажуць: «Ён быў тут, праходзіў», а скажуць: «Ён з намі!»

**Васіль ЛІЦВІНКА.**

**НА ЗДЫМКАХ: Генадзь ЦІТОВІЧ і Раман ШЫРМА; бацька Рыгора Шырмы Раман Васільевіч, ад якога сын запісаў шмат песень; маэстра з унукам Раманам; Рыгор Раманавіч з жонкай. Клаўдзіяй Іванаўнай.**

*ПАЛЕМІЧНЫЯ НАТАТКІ*

# ДАЗВОЛЬЦЕ ЎДАКЛАДНІЦЬ

Вострае пытанне аб беларускай мове паволі ўваходзіць у спакойныя берагі. Час мітынгаў, галашэння над сконам шматпакутніцы нашае саступае стрыманым развагам. Бо як ні было роспачна, безнадзейна, аднак мова Скарыны-Багушэвіча-Коласа вытрывала, жыве і канаць не збіраецца. Іншая справа, як ёй далей лёс усміхнецца, ці ўсміхнецца? Што яе чакае, зноў парадыйнае вегетаванне беднаю падчаркай ва ўласнай хаце ці, нарэшце, нармальны, бесперашкодны рост і росквіт на ўсю глыбіню ейных нутраных сілаў і сокаў, такі не дашчэнту выпетраваных, высушаных зацятым асіміляктарствам. Тут я цалкам падзяляю думку А. Рогалева («Ці загаворым мы па-беларуску?» — «Г. Р.», 7 лістапада 1991 г.) адносна трывучасці слова беларускага, імуннае ўстойлівасці ў характары яговых носьбітаў. Хаця і нельга вочы заплюшчваць на дужа падкалечаны, крытычны стан моўнае, наогул нацыянальнае самасвядомасці народа. Менавіта з гледзішча гэтае акалічнасці не магу пагадзіцца з галоўнаю высноваю разважанняў шаноўнага спадара дацэнта аб выратавальным для беларускае мовы спаборніцтве з рускаю. Сама па сабе ідэя спаборніцтва, універсальнае праявы жыцця й выжывання ў прыродзе й грамадстве не выклікае пярэчанняў. Але чаму менавіта з рускаю моваю? Чаму не з польскаю, нямецкаю, ангельскаю і г. д.?

Галоўнае ж, пры гэткім «суперніцкім» падыходзе канечным мне бачыцца пытанне выйсцёвых, стартавых мажлівасцяў мовы беларускае. Удакладняю: фактычнае забеспячэнне за ёй поўнага суверэнітэту, ні ў чым не абмежаваных правоў у сваёй дзяржаве, пры якіх яна сама і толькі яна магла б вызначаць сабе партнёраў і «супернікаў» і ў згоднасці з уласнымі інтарэсамі рэгуляваць варункі, правілы спаборніцтва. Бо варыянт, прапанаваны сп. Рогалевым—хоча таго аўтар ці не, — выходзіць з існуючага стану рэчаў. Інакш—з фактычна нераўнапраўнага становішча беларускае мовы, накінутага ёй прывілеяванымі варункамі мовы рускае, усталяванымі ў выніку двухвяковага, прынамсі двухвяковага, панавання на Беларусі каланізацыйнае, асіміляторскае палітыкі. Што да пасажу ў артыкуле «быццам бы нішто ў моўнай сферы не забаранялася», то гучыць ён на маё ўспрыманне не саўсім карэктна. Адносна таго, як пад некрыўдлівае «быццам бы» адбывалася па інэрцыі й працягваецца выжыванне беларускае мовы з яе спрадвечнае зямлі, гаворана апошнім часам, пад галоснасць, многа й доказна, каб тут згаданы сюжэт не паўтараць. Да гэтае балючае праблемы дадаў бы толькі адно меркаванне, дакладней, прапанову. Белая (можа Чорная) Кніга моўнага генацыду над некалькімі пакаленнямі беларусаў стала б важкім урокам сучаснікам і суровай перасцярогай наступнікам. Такі дакументальны Мартыралог беларускае душы з часам пэўне будзе створаны (ТБМ імя Фр. Скарыны магло б выступіць з ініцыятываю ў гэтай справе) і мажліва паскорыць «моўнае» прасвятленне абыякавай, абцяжаранай «кілбасным сіндромам» часткі беларускага грамадства, настроямі якога, здараецца, узалежніваюць перспектыву ў парушаным пытанні. Адносна ж самасвядомасці беларускае інтэлігенцыі (нікласць яе таксама слушна зазначана ў артыкуле) згаданая Кніга мела б пэўне не апошняе значэнне.

Ітак, пра дыскрымінацыйны стан беларускае мовы на Беларусі, стан залежны—цяпер ужо ў незалежнай рэспубліцы. Як выбавіцца з гэтае пракавечнае залежнасці? Шляхоў і прадумоваў многа, і не мне адному іх вызначаць. Аднак адзін ці не з самых істотных, прынцыповых пунктаў адважуся назваць, пэўна не робячы з таго ніякага адкрыцця: ён дастаткова відочны ці не кожнаму, хто ўсур'ёз заклапочаны лёсам Роднага Слова. Пачаць трэба з галоўнага, неадкладнага: пазбавіць рускую мову прывілеяванага становішча, якое яна па згаданай вышэй прычыне ўтрымлівае і ад якога добраахвотна не адмовіцца, а пры прапануемым «спаборніцкім» варыянце толькі ўзмоцніцца. Развітацца раз і назаўсёды з штучным, дыскрымінацыйным падзелам у сыстэме асветы на школы, класы, садкі «рускія» і «беларускія». Надаўшы — заканадаўчым чынам — усёй адукацыі, культуры, навуцы, інфармацыі адназначна нацыянальны, беларускі характар. Зразумела, пры гарантаванні нацыянальным меншасцям у месцах іх кампактнага пражывання адпаведных правоў на развіццё сваіх моваў, культур.

Дайце ўрэшце беларусу пераканацца, што дзіцяці ягонаму свецяць не толькі беларускамоўны клас-астравок або, як яго слушна «ахрысцілі», рэзервацыя ў рускамоўнай стыхіі, але і вышэйшая навука, культура на беларускі лад. Не думаю, каб пры такім павароце справы беларусы, прынамсі, хто наперакор неймавернаму асімілятарскаму шалу не выракся беларускае мовы (а такіх нямала, блізка 80 працэнтаў), раптам пачнуць яе выракацца ці, крый Божа, крышыць шыбы ў беларускіх школах, тэхнікумах, інстытутах. Так што няварта палохацца «насілля», калі разумець пад ім натуральны, непазбежна рашучыя крокі дзяржавы дзеля нацыянальнага самазахавання народу. Інакш кажучы, пастаўце беларускай папялушцы, зрынутай у глыбокую бездань, ратавальную лесвіцу, па якой яна хутка выбярацца на сонечную паверхню, пачаўшы нармальна жыць, развівацца ці, як каму даспадобы, спаборнічаць з другімі мовамі.

Пры якасна новых, нармалізаваных варунках мова беларуская побач з набыццём належнае функцыянальнасці, грамадскае прэстыжнасці пачне самаачышчацца ад штучных напластаванняў, безлічы калекрусіцызмаў, без патрэбы напхваўшаных у ёй увішнымі газетчыкамі і нават лінгвістамі (даводзіў жа нядаўна адзін вучоны - моваед, што слова «звязда» — назва аднае-адзінае ў рэспубліцы цэнтральнае беларускае газеты — спакон беларускае; другі акадэмік троху раней таксама пераконваў у друку ў беларускасці словаў «поезд», «чай», «карасіна», «чарніла» і да т. п.). І тут, на жаль, цяжка не пагадзіцца з шаноўным аўтарам, што пры цяперашнім стане беларускае «літаратурнае» мовы яна ў многім нагадвае, з сваімі 46—48 працэнтамі «лексічнае» самастойнасці, бляклы водсвет велікарускае суседкі. Хаця, на добры толк, можна было б і ўдакладніць пытанне: чаму менавіта руская мова, а, скажам, не старажытнаўсходнеславянская, стараславянская ўзята ў якасці тэста на самабытнасць мовы беларускае?

Наогул жа, справа выжывання, адраджэння беларускае мовы ў сучасных абставінах ёсць пытаннем не гэтулькі сацыялінгвістычным, колькі і перадусім—палітычным. У тым сэнсе, што гэтая мова павінна ўрэшце набыць дзяржаўна-грамадскі статус, адэкватны статусу Рэспублікі Беларусь, суверэннае незалежнае дзяржавы. Каб такі пакласці крэст на русіфікатарскім засіллі—у школах, ВНУ, прэсе, выдавецтвах, тэатрах, кіно, на ўсіх дзялянках духоўнага жыцця беларусаў. Таму павінны прыйсці палітыкі, дзяржаўныя мужы, здатныя не толькі размаўляць, але і дзейнічаць: суверэнна, паслядоўна, па-беларуску.

Ці ў стане беларускі народ вылучыць гэтакіх палітыкаў на кіруючыя звёны ў сваім Дзяржаўным Доме? Вось пытанне, адказ на якое ў многім вызначыць далейшы лёс беларусаў і, зразумела, іхняе мовы.

**Алесь ЛЯМЕЦ.**

# АДКРЫТЫ ЛІСТ

**Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. С. ШУШКЕВІЧУ, Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Ф. КЕБІЧУ.**

Калі ў доме пажар, у першую чаргу ратуюць нямоглых старых, слабых жанчын і дзяцей. І толькі пасля гэтага выносяць з агню рэчы...

У нашым няўтульным і бяздушным доме, падобна, усё перавернута з ног на галаву. Як і ўсё жыватворнае, культура, пазбаўленая надзейнай апоры і падтрымкі, не здольная абараніць сябе і выжыць. Ёй няма чаго, акрамя сваёй душы, проціпаставіць жорсткаму рыначнаму свету.

Горка пра гэта гаварыць, але прайшоўшая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, дзе прымаўся Закон аб падатках, праігнаравала просьбу творчых саюзаў Беларусі аб вызваленні іх ад усіх падаткаў, за выключэннем чарнобыльскага. І наўрад ці гэтае рашэнне парламентарыяў прадыктавана клопатам аб дзяржаўнай казне. Бо размова ідзе ўсяго пра нейкія пяць мільёнаў.

Творчыя саюзы не атрымліваюць ад дзяржавы датацый. Таму мы і вымушаны весці эканамічную дзейнасць і самастойна зарабляць сродкі, якія накіроўваюцца галоўным чынам на забеспячэнне і без таго сціплых праграм у падтрымку нацыянальнай культуры. Па сутнасці, мы бяром на сябе функцыі дзяржавы і просім толькі аб адным: даць магчымасць і надалей без перашкод весці гэтую работу.

Нашы парламентарыі любяць спасылацца на вопыт высокаразвітых замежных дзяржаў. Агульнавядома, што ва ўсім цывілізаваным свеце культура, мастацтва заўсёды карысталіся і карыстаюцца дзяржаўнай падтрымкай. Падрыхтаваны прапановы і ва ўрадзе Расіі аб вызваленні ад падаткаў творчых саюзаў, аддзяленняў, прадпрыемстваў і арганізацый, якія ўваходзяць у іх склад; прадуманы меры выратавання культуры і талентаў ад камерцыялізацыі.

З трывогай і болем за лёс нацыянальнай культуры мы звярталіся непасрэдна да парламентарыяў, у Вярхоўны Савет і Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, аднак не былі там пачуты. Глухое неразуменне і адкрытае ігнараванне нашых надзённых просьбаў і зваротаў мы разглядаем як мэтанакіраваную антыкультурную палітыку, якая прывядзе да самаліквідацыі творчых саюзаў — адзіных у сваім родзе арганізацый, здольных аказваць уплыў на творчыя працэсы, супрацьстаць пранікненню ў нацыянальную культуру нізкапробных твораў.

Мы перакананы, што з ліквідацыяй творчых саюзаў нашу культуру захлісне хваля бездухоўнасці, агіднасці і пошласці. На чыім сумленні будзе гэта нічым не заменная страта? Хто панясе за гэта адказнасць?

**Кіраўнікі творчых саюзаў і Фонду культуры Рэспублікі Беларусь: В. ЗУЁНАК, Я. КАВАЛЕЎСКІ, А. ДЛАТОЎСКІ, Л. ЕКЕЛЬ, В. НІКІФАРАЎ, А. КРАСІНСКІ, І. ЛУЧАНОК, Г. БУРАЛКІН, М. ЯРОМЕНКА, М. ДРЫНЕЎСКІ, І. ЧЫГРЫНАЎ.**

# УСЁ СКАЧА ТОЙ РЫЦАР НА БЕЛЫМ КАНІ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.).**

мушаная эміграцыя, я б яшчэ дадала,—вечная пакута.

**Прыпаду да граніту ніцам—**
**Стогне камень, енчыць камень:**
**— Хто ты духам, жабрак або рыцар?—**

задае сабе няпростае пытанне паэт у вершы, напісаным у пачатку 50-х гадоў, калі толькі прыехаў у Амерыку. А да той жа Амерыкі колькі ўсяго перажыў! Капаў вугаль у шахтах Бельгіі, быў у перасыльных лагерах у Натэрнбергу і Бакнангу.

У беларускім лагеры ў Натэрнбергу М. Лешчанка стаў рэдагаваць газету "Беларускае слова", а пасля "Беларускую трыбуну". Выпакутаваны ўласным лёсам, адзін за адным нараджаюцца ў паэта вершы.

**Шмат мы зьмералі крокамі даляў,**
**Не адзін мілы вобраз пагас;**
**І жывых, нежывых пакідалі,**
**Але край родны з намі, у нас.**
**Ён гамоніць, галосіць, трызвоніць**
**Цяжкім стогнам разьбітых званоў,**
**Гострым мечам нястрыманай Пагоні,**
**Гучнай славай палеглых сыноў...**

Пазбаўлены радзімы, на чужыне М. Лешчанка надзвычай абвострана пачынае разумець сваю духоўную знітаванасць з Беларуссю, з яе народам. Ён чытае шмат гістарычнай літаратуры, каб зразумець, што ж такое адбываецца з яго родным краем і чаму ўсе верныя сыны Бацькаўшчыны пазначаны кляймом ворагаў народа, здраднікаў.

**Пакараў нас Бог, зямліца.**
**На тваіх пляцох, сталіца,**
**Апрычнікаў Берыя зьмяніла «фельджандармэрыя».**
**Якая розніца?**
**Рабуюць агулам і ў розьніцу,**
**Як і першыя, другія,—**
**Абразы Рэмбрандта, Растрэлі...**
**Расстрэльваюць Гэтак-жа сама,**
**Нават у тыя самыя ямы.**

Ідэя незалежнасці Беларусі, магчымасці быць гаспадарамі ў сваёй хаце, тэма волі і змагання становяцца цэнтральнымі ў творчасці паэта.

Міхась Лешчанка цяпер падпісваецца псеўданімам Кавыль. Кавыль — травяністая стэпавая расліна, надзвычай жыццяздольная, нягледзячы на самыя неспрыяльныя ўмовы, корань пускае глыбокаглыбока ў зямлю, адкуль бярэ пажыўныя рэчы і вільгаць. Так і Міхась Кавыль. У самыя неспрыяльныя крызісныя перыяды жыцця яго ратавала Муза. Ратавала і натхняла на жыццё, на дзейнасць.

— У Амерыцы давялося мне працаваць фізічна. Фізічная праца пайшла мне на карысць. Працаваў спачатку прыбіральнікам у фірме «Сквібб», а пасля ткачом у месце Бандбрук. Працаваў таксама ў Форда... Мы мелі дастатак. Але ж гэта не самае галоўнае для чалавека, хаця і патрэбнае. У эміграцыі я адчуў сябе стопрацэнтовым беларусам.

**— Ці маглі вы, спадар Міхась, знаёміцца з беларускай савецкай літаратурай, ці атрымлівалі якую прэсу?**

— Вельмі слаба. З газет раней атрымліваў «Голас Радзімы», але там такую прапаганду пісалі, што я яму не верыў ні слова. Ды і «Ніва» з Беласточчыны не надта адкрыта пісала. Гэта цяпер ужо ўсе сталі больш вольныя...

**— Раскажыце трохі пра сваю сям'ю.**

— Жонка мая завецца Соня. Яна беларуска, з Чэрвеньскага павету. (А я—слуцак). Мы з Соняй хутка злюбіліся, за якія два тыдні. Маем двух сыноў. Старэйшы скончыў універсітэт, працуе ў страхавой кампаніі, а малодшы курсы браў, камп'ютэры вывучаў, таксама добрую работу мае. Сыны купілі сабе дамы, жывуць добра. Але, на жаль, і яны, і ўнукі пачуваюцца больш амерыканцамі, чым беларусамі. Хаця размаўляюць па-беларуску.

**— А ці ведаеце вы, што ў Беларусі вялікія перамены!**

— Якія гэта перамены, калі толькі дазволілі гаварыць што хочаш?

**— Маеце вы нейкую мару?**

— Я хацеў бы паехаць на магілу маткі, пабачыць тыя мясціны, дзе я нарадзіўся. Але я баюся, бо не веру савецкай уладзе. Зняверыўся. Хто туды едзе, за ўсімі «хвосцік» ходзіць, пільнуе, а тады—у каталажку. Я ж па вашых законах—здраднік.

**— Які накірунак мае часопіс «Беларуская думка», дзе вы галоўным рэдактарам!**

— Так, я галоўным там з 1963 года. А раней быў Янка Даніловіч. Выданне гэта існуе выключна на ахвяраванні эмігрантаў. З-за абмежаванасці сродкаў ён выходзіць толькі раз на год. Накірунак яго я б вызначыў як антыкамуністычны. «Рысакоў татараў і манголаў залыгала раскосая Русь. Закруцілі ў крывавае кола Ленін—ханы маю Беларусь». Я глыбока перакананы, што камунізм і бальшавікі—гэта зло. І з ім трэба змагацца, бо інакш беларусы ніколі не будуць жыць як вольныя людзі.

**— Дзякуй за шчырую размову. Зычу вам усё ж ажыццявіць сваю мару — прыехаць на Беларусь. Гэта дасць вам каласальны матэрыял для творчасці і асэнсавання лёсу і перспектыў развіцця нашай з вамі Радзімы.**

Гутарку вяла і каментары зрабіла **Таццяна АНТОНАВА.**

# ЛЕСАВІЧОК

Яраслаў ПАРХУТА

### КАЗКА

Калі садзіцца сонейка і на зямлю апускаецца ноч, з Ласінага логу выходзіць Лесавічок з торбаю за плячыма. У той торбе заўсёды поўна зорак, а наверсе яшчэ і маладзік паблісквае.

Ідзе Лесавічок прасекаю, ідзе і, каб не было сумна, пачынае сам сабе загадкі загадваць. Загадае адну—і тут жа адгадае. А потым бярэцца за новую...

Так было і на гэты раз. Толькі выбраўся Лесавічок на прасеку—загадаў такую загадку:

**З выгляду—сястра вавёрцы,**
**А жыве ў глыбокай норцы.**

Загадаў і пачаў думаць-гадаць, як яе адгадаць. Нарэшце здаўмеўся што да чаго і ад радасці ажно ўскрыкнуў:

— Гэта лісіца!

Весялей стала Лесавічку, і ён загадаў сабе яшчэ адну загадку:

**Шэры ды кірпаты**
**І на здзіў зіркаты,**
**Ноччу спаць не любіць —**
**Крыкам птушак будзіць.**

Зноў пачаў думаць-гадаць, як загадку адгадаць. Ды тут над прасекаю з'явілася нейкае страшыдла, залапатала крыламі, зарагатала, а потым ухапіла торбу з зоркамі і—на асіну. Гэта быў Сыч, пра якога загадка склалася.

Лесавічок аслупянеў ажно:

— Хіба так жартуюць?!

Сыч толькі рагоча:

— Хо-хо-га! Хо-хо-га!..

Сеў Лесавічок на пень і ад крыўды заплакаў:

— Што я лясному народу скажу? Як ён без зорак і месяца жыць будзе?

— Прывыкне! — закрычаў Сыч з асіны.—У цемнаце лепш!..

Яшчэ мацней заплакаў Лесавічок. Але, на шчасце, прасекаю вяртаўся з абходу ляснік, даведаўся, што здарылася, абурыўся:

— Сыч, аддавай торбу!

Сыч і слухаць не хацеў, шухнуў з асіны на дуб і адтуль зноў зарагатаў:

— Хо-хо-га! Хо-хо-га!..

Узлаваўся ляснік, падняў стрэльбу ды як бабахне! У Сыча, праўда, не пацэліў, а лямку ў торбе — перабіў.

Бразнулася торба вобземлю, і зоркі рассыпаліся па траве. Лесавічок узрадаваўся, кінуўся збіраць, а ляснік дапамагае і заадно дакарае:

— Не будзеш другі раз пазніцца ў лесе! Інакш і самога ўкрасці могуць...

Пазбіралі яны ўсе да адзінай зоркі, пайшлі на гару, што сярод лесу ўзвышалася, і пачалі іх на неба закідваць. А скончылі добрую справу—сказалі ў адзін голас:

— Да раніцы свяціце!

І пайшлі кожны сваёй дарогай: Лесавічок—у Ласіны лог, ляснік — у сваю вёсачку...

Цяпер Лесавічок ніколі не позніцца. З Ласінага логу выходзіць завідна. А прыйдзе на гару—развяжа торбу і пачынае закідваць зоркі на неба. Напаследак на самым краёчку і маладзік павесіць. І радуецца: усім відно будзе!

Вунь і зараз неба над лесам нібы ўсеяна зоркамі. А месячык які! Чысценькі. Пукаценькі. Так і просіцца ў хату замест лямпачкі.

Жывуць у міры.

Фота Ю. ЗАХАРАВА.

## ЗАГАДКІ

**Ляцелі галкі, селі на палкі. Сядуць па адной — галка лішняя, сядуць па дзве — палка лішняя. Колькі было галак і колькі было палак!**

(Тры палкі і чатыры галкі).

**Бегла ліска каля лесу блізка: ні сцежкі, ні дарожкі, толькі залатыя рожкі.**

(Маланка).

**Мяне ўсе просяць, мяне ўсе чакаюць, як толькі з'яўлюся—хавацца пачынаюць.**

(Дождж).

**Хто такі!**
**Ён рогі мае,**
**Але іх штогод губляе.**

(Лось)

**Сінеюць зоркі ў жыце.**
**Як іх завуць, скажыце!**

(Васількі)

**Напіўся, наеўся,**
**На агонь усеўся,**
**Кашу зварыў**
**І нас накарміў.**

(Гаршчок)

Станіслаў ШУШКЕВІЧ

## ГАЛОДНАЯ ЛІСА

**Круціцца ліса ў пасцелі:**
**Куры, гусі сняцца.**
**Дрэвы над нарой шумелі,**
**Змусілі падняцца.**

**І пабегла воўчым следам —**
**Хочацца пад'есці,**
**Можа, знойдзецца аб'едак**
**На ваўчыным месцы.**

**На алешыне варона**
**Каркае-смяецца:**
**— Дзе ж яе адвечны гонар!**
**За аб'едкам пр-р-рэцца.**

## ЛІЧЫЛКІ

### СЕМ СЕМЯРЭЙ...

**Сем семярэй**
**І сямёра свіней.**
**Свінка і свінчын брат**
**І сямёра парасят.**

### САЛОМІНКА

**Саломінка,**
**Яромінка**
**Прэла,**
**Гарэла,**
**На мора**
**Ляцела.**
**Касцюк,**
**Масцюк,**
**Радзівон,**
**Выдзі вон.**

***

**А ты, коцік, не гуляй...**
**А ты, коцік, не гуляй,**
**Начовачкі прыбірай!**
**Начовачкі слізкі,**
**Вядзёрачкі блізкі.**
**Круг абараваўся,**
**А ты так астаўся.**

# крынічка

**Спрытныя рукі ў бабулі Аліны, якая жыве на Браслаўшчыне. Перабірае тонкія ніткі, мудруе з чаўнакамі на старых кроснах, тчэ прыгожыя паясы. У гэтыя часы любіць сядзець ля яе ўнук Жэня. Зачаравана глядзіць, як працуе бабуля, дзівіцца мудрагелістым узорам, кветачкам і птушачкам на паясах — усё нібыта жывое і ўзятае з жыцця.**

**— Вось падрасту, — кажа ўнук, — і зраблю табе новыя кросны. А яшчэ хачу і сам паспрабаваць на іх папрацаваць, свае паясы выткаць.**

**— Што ж, справа добрая, вам, унукам, яе і працягваць, — згаджаецца бабуля. — Аб нашым ткацтве слава па ўсім свеце ідзе. Пра гэта трэба заўжды памятаць.**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

Святлана ХОРСУН

## БЕЛАЕ ДЗІВА

Сяргейка не чуў, як усхадзіўся на дварэ вецер. Нагуляўшыся з Рудзікам, ён моцна спаў.

А зіма нібы ўзлавалася: вецер гнаў і гнаў нізкія воблакі, нудна падвываў у коміне. Неба пацямнела, сцялася, як ад болю. І неўзабаве пайшоў снег. Густы і спорны, ён хутка абсыпаў зямлю, дрэвы, дамы. І пакрытую чорным толем будку, у якой жыў Рудзік. Сабака ціха драмаў, схаваўшы нос у руды пушысты хвост. І сніўся яму лес, заечыя і лісіныя сляды на белай зямлі.

Снег падаў усю ноч. А раніцай у казачным убранні ажыла лясная паляна. Ад захаплення вылупіў вочы заяц: белае дзіва ў лесе! Глянуў на сваё белае футра і ўсцешыўся: цяпер не заўважыць яго вораг у кустах.

Вылезла з нары і ліса. Ад неспадзеўкі нават панюхала снег. Халодны! І мышамі не пахне. Расчаравана фыркнула, замахала хвастом і пабегла на ўскрай лесу. Мышкаваць.

Узрадавалася сініца: цінь-цінь! цінь-цень!.. Было добра чуваць, як выстукваў старадрэвіну дзяцел: та-та-тах! та-та-тах!.. Быццам адбіваў усяму свету тэлеграмы: «Выпаў снег!», «Выпаў снег!»

Выпаў снег і для кожнага адкрыў нешта новае. Тупаў па двары Сяргейка і зачаравана глядзеў на снег — белы такі, нібы мука, з якой яны з мамай мясілі цеста і ляпілі жаваранкаў. Ён і са снегу паспрабаваў вылепіць такога ж жаваранка, але снег рассыпаўся, раставаў у цёплых далонях. І ў Сяргейкі нічога не атрымлівалася. Падышла мама, выцерла яму рукі і надзела рукавічкі. Строга папярэдзіла:

— Не чапай снегу, сынок. Ён халодны, прастудзішся. Ідзі лепш у хату.

Але Сяргейку не хацелася ісці ў хату. І ён прытупаў да Рудзіка. Гладзіў яго па спіне і ўпрошваў:

— Рудзік, давай з табою ў лес сходзім...

Сабака торкаўся ў Сяргейкаву руку, глядзеў на хлопчыка. Нібы пытаўся: а што мама скажа? У зрэнках яго вачэй, як у малюпасенькіх люстэрках, іскрыўся снег.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

ЗАСНАВАЛЬНІК: Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Індэкс 63854. Заказ № 52.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12